# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1245) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 6 СТУДЗЕНЯ 1980 г. ЦАНА 1 зл.


## БЕЛА-ВЕЖА

Кожны год Белавежу наведвае звыш 100 тысяч турыстаў. Найперш яны па прыгожым драўляным мосціку праходзяць у палацовы парк, каб пабываць у прыродазнаўчым музеі, або падсілкавацца ў рэстаране, а затым адпраўляюцца ў нацыянальны парк. Зімой туды неахвотна водзяць турыстаў, каб не парушаць адвечнай цішыні і спакою Белавежскай пушчы.

Затое ахвотна прапануюць турыстам кулік — катанне ў санях пад безупынны напеў званкоў. За вёскай Пагарэльцы чакаюць турыстаў вогнішчы, пры якіх можна падсмажыць каўбаску, перакусіць бігос і... чокнуцца з сябрамі кілішкам, а затым і патанцаваць.

Для турыстаў радасць і незабыўныя ўражанні, а для белавежцаў дадатковы заробак. За адну паездку ў лес белавежскія сяляне бяруць 300 зл.

Больш дапытлівым турыстам можа пашчасліціца, што з багаццем Белавежскай пушчы пазнаёміць іх сам д-р Чэслаў Аколаў — дасканалы знаток найглыбейшых тайнаў гэтага спрадвечнага лесу, дырэктар прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Толькі тады прыдзецца прабірацца за ім па глыбокім снезе. Затое можам палюбавацца самым магутным дубам у Белавежскай пушчы, пабачыць чараду зуброў, калі спакойна жуюць сена, падкінутае ім дбайнай рукой леснікоў. На здымку д-р Ч. Аколаў (другі справа) паясняе якраз, што самы магутны дуб расце паблізу Белавежы ў зоне прыдарожнага запаведніка, які распасціраецца паабапал шашы з Гайнаўкі ў Белавежу. Яго аб'ём — 782 сантыметры, дыяметр 210 см, вышыня 41 метр.

Фотарэпартаж **В. Рудчыка**







## З ДБАЛАСЦЮ ПРА ЎМАЦАВАННЕ СЯМ'І

У Дырэктывах Цэнтральнага Камітэта на VIII з'езд ПАРП сказана: „Умацаванне сям'і, спраўнае выкананне ёю абавязкаў развіцця і апекі патрабуе працягваць намаганні, якія гарантуюць сем'ям адчуванне поўнай сацыяльнай забяспечанасці, у тым ліку — права на працу, вучобу і адпачынак, ахову здароўя і дапамогу ў выхоўванні дзяцей...".

Накіраванне асаблівай увагі партыі на сям'ю глыбока абгрунтавана, бо сям'я — гэта асноўнае, натуральнае выхаваўчае асяроддзе. Яна мае магчымасць усебаковага ўздзеяння на чалавека. Маральныя і ідэйныя прынцыпы, вынесеныя з роднага дому, маюць вялікі ўплыў на светапогляд і грамадскія паводзіны людзей.

На вялікае зацікаўленне гэтымі справамі палітычных і дзяржаўных уладаў паказвае таксама пастанова Прэзідыума ўрада ад 20 лістапада 1976 г. па пытаннях папулярызацыі педагагічнай культуры. У яе выніку VIII пленарнае пасяджэнне Савета па справах выхавання ад 23 лютага 1978 г. прыняло праграму пашырэння педагагічнай культуры ў польскім грамадстве.

У справу шматлікіх намаганняў, нацэленых на пераўтварэнне сям'і ў асяроддзе мэтанакіраванага выхавання і з думкай пра дапамогу сям'і ў выконванні ёю выхаваўчых абавязкаў уключыліся асветныя ўстановы і грамадскія арганізацыі горада Бельска, горада — дзе кожны трэці жыхар знаходзіцца ў абсягу ўздзеяння асветна-выхаваўчых установаў.

Працуе тут восем універсітэтаў для бацькоў, у тым ліку шасцю з іх апякуецца Таварыства пашырэння свецкай культуры і двума — Таварыства паўсюдных ведаў.

У абсягу ўздзеяння школ грамадскай адукацыі бацькоў, якімі лічацца універсітэты для бацькоў, знаходзяцца ўсе прадшколлі і пачатковыя школы, а таксама агульнаадукацыйны ліцэй. Заняткі вядуць лекары, псіхолагі, педагогі, юрысты. Гэта дазваляе папулярызаваць веды па сацыялістычнай педагогіцы і псіхалогіі, удасканальваць уменні ў выхоўванні дзяцей паводле патрабаванняў навукі, а таксама на выяўленне грамадскай еднасці супружаства. Асветна-выхаваўчыя ўстановы праз універсітэты для бацькоў рэалізуюць вядучую ролю ў падрыхтоўцы іх да выхоўвання сваіх дзяцей, садзейнічаюць умацаванню супружаскіх і сямейных сувязей. Ствараюць магчымасць большай еднасці паміж самімі бацькамі, бацькоў з прадшколлем ці школай, ліквідуюць разнабой у выхаванні.

Педагагічная праблематыка папулярызуецца таксама ў асяроддзі жаночага руху. Засноўваецца гэта на тым, што справы педагагічнай культуры вельмі блізкія жанчыне, якая хоча ствараць новыя каштоўнасці сацыялістычнай культуры і як найлепш выхоўваць сваіх дзяцей. У ідэалагічнай вучобе актывістак Лігі жанчын у горадзе Бельску рэалізаваны такія тэмы, як становішча дзіцяці ў Польшчы і на свеце, выбраныя пытанні сямейнага і апякунчага кодэкса, сям'я як выхаваўчае асяроддзе і г.д.

Практыка паказвае, што не меней важная роля ў выхаванні належыць мужчынам. Займаюцца дзецьмі паперамена бацька і маці. У гэтым выяўляецца партнёрства ў сям'і, роля бацькоў. Каб удзел мужчын у выхаванні дзяцей быў мэтанакіраваны і планавы, у 1978/79 школьным годзе ў Бельску ў 60-гадзінным педагагічным курсе ўдзельнічала 50 бацькоў.

Пуцяводнай думкай працы, якая вядзецца ў Бельску, з'яўляецца пашырэнне педагагічнай культуры, умацаванне сям'і і адначасова павышэнне вынікаў выхавання маладога пакалення. Гэта якраз першапланавае заданне ў працэсе развітога сацыялістычнага грамадства.

**Сцяпан Трафімюк**




## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### АБЕД ГАТУЕ... ЭВМ

Невычэрпнай фантазіяй надзелены электронны „кулінар“, залічаны ў штат камбіната грамадскага харчавання Мінскага аўтазавода. Ён разлічыў і склаў меню дзвюх тысяч комплексных абедаў, каларыйнасць якіх дакладна адпавядае норме. Стравы ўзяты з кулінарных кніг розных часоў і народаў. Пры камплектаванні абедаў ЭВМ улічвае наяўнасць прадуктаў, магчымасці кухні камбіната, кваліфікацыю яго спецыялістаў, а таксама вызначае кошт страў.

### БЫЦЦАМ ПА ЗАКАЗУ

На тэрыторыі санаторыя „Васільеўка“, што непадалёку ад Гомеля, выяўлены крыніцы мінеральнай вады, якая, паводле заключэння Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута курорталогіі і фізіятэрапіі, можа прымяняцца для лячэння нервовай сістэмы і сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Вада з-пад зямлі з'явілася вельмі дарэчы, быццам па заказу: санаторый „Васільеўка“ менавіта такога профілю. Штогод тут папраўляюць здароўе больш як 3.000 чалавек з розных куткоў краіны. Хутка гэты санаторый расшырыцца ўдвая.

### КАЛЯНДАР

**75 гадоў назад**

9.1.1905 — „Крывавая нядзеля“ ў Пецярбургу. Пачатак буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

**70 гадоў назад**

7.1.1910 нар. К. Заслонаў, слаўны беларускі партызан, Герой Савецкага Саюза.

**65 гадоў назад**

9.1.1915 нар. В. Зуб, беларускі савецкі пісьменнік.

**55 гадоў назад**

8.1.1925 нар. А. Савіцкі, беларускі савецкі пісьменнік.

**50 гадоў назад**

11.1.1930 нар. (у Ваўкавыску) Э. Кабац, польскі пісьменнік.

**35 гадоў назад**

12.1.1945 савецкія войскі адкрылі шырокае наступленне па ўсім Усходнім фронце.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 9. Nakład 7.900 egz. I-2





*Гродна — старажытны горад.* *Фота Яўгена Казюлі.*

## КРАСУЙ НАША ДРУЖБА!

# ПЛЁННАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Нядаўна наведаў Беласток **Мікалай Міхайлавіч Сыч** — дацэнт кафедры электрычных сістэм Беларускага політэхнічнага інстытута ў Мінску. Разам з педагагічнай дзейнасцю ён займаецца навуковымі даследаваннямі, многа публікуе. Выйшла некалькі яго дапаможнікаў для студэнтаў, нядаўна супольна з прафесарам Грыгорыем Яфімавічам Паспелавым выдалі яны дзве вялікія манаграфіі па аптымальнаму выкарыстанню электрычных сістэм. М. М. Сыч актыўна працуе як намеснік старшыні праўлення арганізацыі Таварыства савецка-польскай дружбы ў Політэхнічным інстытуце ў Мінску. З ім мы сустрэліся ў Ваяводскім праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы — ён зайшоў наведаць сваіх даўніх знаёмых. Мне ўдалося вылучыць момант у гэтай сардэчнай сяброўскай сустрэчы і задаць яму некалькі пытанняў.

**— Мікалай Міхайлавіч, аказваецца ў Беластоку вы не ўпершыню?**

— Першае маё знаёмства з вашым утульным горадам і прыветлівымі беластаччанамі адбылося даўнавата. Як вядома, паміж нашым Політэхнічным інстытутам і Беластоцкай палітэхнікай даволі даўно завязалася і штогод расшыраецца разнабаковае і вельмі плённае супрацоўніцтва. І ў сувязі з ім у 1975/76 навучальным годзе я выкладаў тут у Беластоку электратэхнічныя прадметы. З прыемнасцю ўспамінаю той час. Я казаў маім слухачам: „У мяне тут падвойная праца: вучу вас і вучуся ад вас“. Проста тады я вельмі інтэнсіўна вучыўся польскай мове, і, каб пэўней адчуваць сябе пры маіх першых самастойных выказваннях па-польску, насіў у кішэні па некалькі шпаргалак-гармонікаў з запісанымі словамі, зваротамі, цэлымі сказамі. Не буду скрываць: выцягваў іх тайком і падглядаў, як той студэнт. Аднак размаўляць па-польску ўсё ж навучылі мяне не шпаргалкі, але мае калегі, польскія выкладчыкі, і якраз студэнты. У тую маю першую пабыўку мы разам з навуковымі працаўнікамі Беластоцкай палітэхнікі апрацавалі праект па ўдасканаленню энергетычнай сістэмы і ажыццявілі яго ў варшаўскім энергетычным вузле.

**— Ці цяперашняя ваша пабыўка ў Беластоку звязана таксама з гэтымі працамі?**

— Не, яна звязана з крыху іншай галіной нашага супрацоўніцтва, гэта значыць з супольнымі мінска-беластоцкімі навуковымі выдавецтвамі. Справа ў тым, што яшчэ ў першую маю пабыўку ў Беластоку мы утраіх: рэктар Беластоцкай палітэхнікі, прафесар Тадэуш Бэлдоўскі, прафесар Мінскага політэхнічнага інстытута Грыгорый Яфімавіч Паспелаў і я, напісалі падручнік па праектаванню і эксплуатацыі электрычных сетак і сістэм. Ён выйшаў у 1978 годзе. Кніга ўдалая. Яна вельмі карысная для навуковых працаўнікоў, праектных установ і студэнтаў. Цяпер жа мы працуем над падручнікам па праектаванню электрычных сетак для студэнтаў электратэхнічных кірункаў. Ён будзе выдадзены ў Мінску выдавецтвам „Вышэйшая школа“, а затым будзе перакладзены на польскую мову і выйдзе ў Польшчы. Апрача гэтага мінскія і беластоцкія вучоныя разам працуюць над вельмі важнай для гаспадаркі тэмай „Паляпшэнне тэхнічна-эканамічных вынікаў працы электрычных сетак“. Мы сваю частку працы ўжо выканалі, заканчваюць сваю частку і нашыя беластоцкія калегі. І гэтыя навуковыя і выдавецкія справы якраз і патрабавалі майго прыезду ў Беласток.

**— А як развіваюцца іншыя формы супрацоўніцтва паміж абедзвюма палітэхнікамі?**

— Таксама вельмі плённа. Мы штогод абменьваемся групамі студэнтаў па 15 асоб, па некалькі чалавек стажораў і г.д. Пашыраюць і паглыбляюць гэтае супрацоўніцтва арганізацыі Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоцкай палітэхніцы і Таварыства савецка-польскай дружбы ў нашым інстытуце. У Мінску мы арганізуем сустрэчы выкладчыкаў і студэнтаў з Польшчы з іх мінскімі калегамі, а таксама ў розных прадпрыемствах, арганізацыях, школах. Наладжваем урачыстыя вечарыны ў гонар дзяржаўных і гістарычных польскіх святаў. Праводзім конкурсы ведаў аб Польшчы. Экспануем выстаўкі аб дасягненнях у розных галінах гаспадаркі, навукі, культуры ў Народнай Польшчы. Сустракаем і апякуемся ўдзельнікамі польскіх паяздоў дружбы, што прыбываюць у беларускую сталіцу. Вядзем таксама курсы польскай мовы. Яны карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў нашым інстытуце. Весці іх нам дапамагае Консульства Народнай Польшчы ў Мінску і студэнты з Польшчы, што займаюцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і іншых вышэйшых школах. Як бачыце, наша дружба трывалая і прыносіць канкрэтную карысць нашым польскім сябрам і нам.

**—Дзякую, Мікалай Міхайлавіч, за размову. Я ўпэўнены, што мы яшчэ шмат разоў сустрэнемся ў нашым горадзе.**

**Гутарыў Мікалай Гайдук**




**Куратнік за сем мільёнаў ● Сустрэчы з беларускім пісьменнікам Васілём Хомчанкам ● Якія мы людзі (прапанова дыскусіі) ● Любоўныя песні ● Здабыткі Крынкаўскай гміны ● Палоска Дзядзькі Кваса ● З маёй званіцы ● Весткі з Чэхаў Арлянскіх, Дубіч Царкоўных, Белавежы, Гарадка, Заблудава ● Калі сніцца падарунак ● Як тушыць рыбу ● Выпрабаванне волі Кастуся ● Песня „Pierwszy siwy włos“ ● Буг у агні.**




**Niedziela 6 I** — 6.20 TTR, RTSS — Matematyka; 6.50 Chemia. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Studio Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Namib — ang. film dok. 11.35 Dziennik. 11.50 Rolnicze rozmowy. 12.20 Piękne głosy — pr. muz. 13.05 Dla dzieci. 13.45 Koncert życzeń. 14.25 Losowanie Dużego Lotka. 14.40 Wulkany świata — fr. film dok. 15.25 Zgadnij kim jestem — teleturniej. 16.20 Pamiętnik z prerii — ameryk. film fab. (western). 17.30 Studio Sport. 18.10 Decydujący front — radz. film dok. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Córki Adama — fr. film fab. (komedia). 21.55 Krystian Zimerman.

**Poniedziałek 7 I** — 12.45 TTR — uprawa roślin; 13.25 Mech. rolnictwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Nurt — nauczanie początkowe. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 17.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 Tajemnica rękopisu — radz. film fab. (sensasyjny). 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Jan Kochanowski — Odprawa posłów greckich. 21.30 Płynie Wisła. Udział biorą: K. Giżowska, K. Krawczyk, E. Bem, M. i B. Winiarskie, Alibabki, zespół „Bajm” i inni. 22.20 Pr. publ. kult. 23.05 Dziennik.

**Wtorek 8 I** — 6.00 TTR — uprawa roślin; 6.50 Mechanizacja rolnictwa. 11.05 Dla szkół: j. polski kl. 5—6; 12.00 j. pol. kl. 7 i 2 lic. 13.25 TTR — uprawa roślin; 14.00 Mechanizacja rolnictwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych — Magazyn szkolny. 17.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.30 Sonda. 18.00 Interstudio. 18.25 Królik Bugs przedstawia — ameryk. film animowany. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Szpital miejski — ang. film fab. 21.25 Camerata. 21.50 Merkury z paszportem. 22.25 Studio Sport. 23.05 Dziennik.

**Środa 9 I** — 6.00 TTR — uprawa roślin; 6.30 Mechanizacja rolnictwa. 11.05 Dla szkół: historia kl. 7. 12.00 Muzyka kl. 1. 12.45 TTR, RTSS — j. pol.; 13.25 Fizyka. 14.30 W drodze do nowego. 15.25 Program dnia. 15.30 Nurt — matematyka kl. 3. 16.00 Obiektyw 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Losowanie Express i Małego Lotka. 17.05 Dom i my. 17.20 „10 minut” — teleturniej. 17.30 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.00 Ofensywa styczniowa — wojsk. pr. historyczny. 18.30 Świat, który nie może zginąć — ang. film dok. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Na los szczęścia, Baltazarze — franc. film fab. 22.10 „30 minut z architekturą”. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 10 I** — 6.00 TTR, RTSS — język polski, 6.30 Fizyka. 11.05 Dla szkół: j. pol. kl. 1 lic., 12.00 kl. 2 lic., 12.55 Fizyka kl. 1. 13.25 TTR, RTSS Chemia. 14.00 Hodowla zwierząt. 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek telewizji dziewcząt i chłopców. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Patrol. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Spotkania w mroku — franc. film fab. (kryminalny). 21.30 Pegaz. 22.15 W minutę po premierze. 22.55 Dziennik.

**Piątek 11 I** — TTR, RTSS — chemia, 6.30 Hodowla zwierząt. 11.05 Dla szkół: program dla kl. 1—2; 12.00 Wychowanie obywatelskie kl. 8; 12.55 Geografia kl. 5. 13.25 TTR, RTSS — matematyka. 13.55 Biologia. 15.10 Redakcja szkolna zapowiada. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — pedagogika. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Magazyn motoryzacyjny. 17.25 Dom i my. 17.40 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.05 Saga rodu Rius — hiszp. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Magazyn Studia Gama. 22.35 Świat, ludzie, idee. 23.05 Dziennik.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Miłość 16-latków — NRD 8—9. W upalną noc — USA 10—11. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 12—13.

**Bielsk Podl.** Taczanka z południa — radz. 8—9. Czas przeszły — fr. 10—11. Racja stanu — fr. 12—13.

**Czeremcha** Mój kochany mąż i ja — NRD 8—9. Węgrzy — węg. 12—13.

**Czyże** Dziki niedźwiedź Gawryło — radz. Szantaż — ang. 9—13.

**Gródek** Bliskie spotkania 3 stopnia — USA 12—13.

**Hajnówka** Orkiestra klubu samotnych serc — USA 7—9. Intryga rodzinna — USA 10—11. Obrót sprawy — radz. 12—13.

**Michałowo** Nocne widma — ang. 8—9. Rywalka fr. 10—11. Pokój z widokiem na morze — pol. 12—13.

**Mielnik** Kuzynka Angelika — hiszp. 9. Cień lecącego ptaka — czes. 12—13.

**Milejczyce** Tortury — fr. Zmory — pol. 9—13.

**Narew** Zamiana — buł. Gang Olsena wpada w szał — duń. 9—13.

**Narewka** Zakręt — pol. Dyrektor do wszystkiego — rum. 9—13.

**Nurzec** Anna siostra Jany — czes. 8—9. Różowe sny — czes. 10—11. Mistrz kierownicy ucieka — USA 12—13.

**Orla** Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. Każdy ma swoje piekło — fr. 9—13.

**Rajsk** Bilet powrotny — pol. Niech się boi — czes. 9—13.

(Працяг са стар. 3)

# У КАЛЯДНЫ АДПАЧЫНАК

Я не спадзяваўся сустрэць і столькі пустэльнага; за гаматным крыжам — каляіны ад саней (з паніклым канём), пасвістванне вятрыска з-паміж кустоўя. Адтуль — трызнілася мне — выбягала воўчае ган'ё, выблісквала парнымі агеньчыкамі з жахліва-жаўтаватым адценнем, яшчэ пакуль у канцавіне прастыні, там, куды сігае святло ад раскалыханай лямпачкі на электрычным слупе над бярэзінай насупроць агародаў Дзюбаграя (?). Я ледзянеў, ад першабытнага страху; як на тое, з гушчавінкі на Кухарцовай пустэчы выскачыў дварняк, звяглівы, і мне прыдалася палка, якую падняў, во, на мастку, што перад бойняй.

Касцёл засланяў ад ветрагону, і да яго падножжа зляталіся на бляск сняжынкі; у вышыні трохі бачнай вежы пракрычала галка (як заўсёды — сварліва).

Надумаўся я наведаць таксама стары маёнтак, па якім засталіся парковыя дрэвы, дарэшты не вырубаныя мужыкамі, сцены колішняй мануфактуры (кажуць, палкоўніка Ліпхарта) і дзве хаціны, у адной з якіх, па-над спустошанымі сажалкамі, нехта жыве; але не хапіла, можна сказаць, адчаю падаца ў тую цемрадзь; чуліся таемныя гукі, праўда, поклічы савы.

Затое па Касцельнай ішлося лёгка, да млынішча з азярыскам. З ветрам. У вірыстай белені гібелі Лазневы завулак, Браварная, Каўказскія пажарышчы...

Мне спадабалася надвор'е; на нікога не натыкаўся я, не прыдумваў прычыну, дзеля якой спатрэбілася начная валачоба. (Сказаць каму: дзеля прыемнасці, — высмее перад чужымі!)

Памакрэў я толькі каля Качыных крыніц, над Шамруховым ровам, у пачатку аселіцы Смаркатага Ёзіка; уваліўся ў ямку. Заўважыў: у прыгуменні Манаха хаваўся прыгорблены, але высокі чалавек; не, гэта не быў прывід. Таму я пасунуўся далей, цераз выган — з аглядкамі, сярэдзінаю таго гуляйполя, з чуйнымі вушыма, напружаны. — Адчуванне пагрозы надакучлівае тады менавіта, калі не знаходзіш абгрунтавання яе. Паддаешся інстынкту.

Сваю Сакольскую пазнаў я па гудзьбе дратоў, наперадзе. Яны выгрывалі на тэлеграфных слупах манатонную, быццам вечнасць, музыку, ад якой паўставала перада мною маё маленства, прывабнае цяпер бессвядомасцю ва ўсім, здольнае дарыць табе радасць не галоўную, не спелую, барані Божа, але — да кажнюткага нервіка ўсёахопліваючую, што ўвесь ты ператворышся ў яе.

На Сакольскай узялася прыглядацца да мяне якаясьці людзіна, і гэта было прыблізна так, бытта аб'явілася страшыдла з вылупленымі бельмакамі, папарасячаным носам, зубамі ад адзінца, на цялячых капытцах, з бычыным хвастом, цэлае ў шэрсці (прыкрытай — яшчэ прытомна ўбачыў — кажухом турэцкага вырабу).

І я вырачыўся.

Ведаў: не рушуся першым. Каб зрабіць тое, трэба мне перастаць баяцца, а звычайна ўтаропіцца ў з'яву, знарочна па-дзіцячаму, выгнаўшы з сябе плойму дрыжыкаў, або і з разбаўленасцю ступіць да лыча, пагладзіць валахоцце, прашчабятаць словы задаволенасці, паводзіць з непадробленай бязбоязю. І гэта ўдалося мне, і настолькі хутка, што ў наступны міг зажадалася не пазбывацца спалоху, наадварот, набрыніць ім да неўтаймаванасці, каб не знікла пачварнасць казачна зачараваўшая мяне, каб не закончылася ўсё пазяхлівай размоўкаю, хто ведае ці не з суседам сваім. Одумам!

Я кінуўся наўцёкі, у дзіўнае ўцяканне, безэмацыянальнае ад разліку, урэшце з натугай на спараджэнне агіды да таго, што вяртаюся ў звычайнасць, у зразумеласць. (Цяжка ўявіць сабе горшую шэрань быту ад той, якая з'яўляецца вынікам якраз усёразумення.)

Беглася з долу.

З казытлівым пачуццём смешнасці.

(З падрыхтаванага да друку перакладнога тома „Малыя дні")



**БУТ У АГНІ**




Іван Мікалаевіч Шыбакоў, даўнейшы камандзір гарнізона дота „Быстрый", піша:

*„24 чэрвеня (1941 г.) праціўніку ўдалося акружыць доты на поўнач ад Слохаў. „Быстрый" вытрымаў некалькі атак ад заду, куды ў нас не выходзілі байніцы. Мы выбягалі з дота і вялі кулямётны ды вінтовачны агонь. Зноў адзначыліся радавы Плаксей і сяржант Саўшкін".*

Гітлераўцы вымушаны былі адступіць. Настала хвіліна пажаданага спакою, калі можна было падумаць аб сваіх асабістых справах. У папярэдні дзень удалося ім паслухаць радыёперадачу на рускай мове. Радыёпрыёмнік яны знялі з нямецкага аўтамабіля, які падбіў старшына **Сяргей Гарэлаў**. Ён у час бою быў крыху пашкоджаны, але абаронцам дотаў удалося на кароткі час давесці яго да спраўнасці і злавіць у эфіры Маскву, адкуль якраз перадавалі вядомае гістарычнае паведамленне ўрада СССР. Яны даведаліся, што ўся краіна Саветаў стала на барацьбу. Гэта іх абнадзейвала. Тым болей адчулі сябе членамі адзінай неаб'емлівай сям'і абаронцаў радзімы.

У такі час перадышкі між баямі Люба Млынарчук, дзяўчына з вёскі Турна Малая, выбралася ў дот „Быстрый" (хаця яна і не ведала, што ён так называецца) з кошыкам, напоўненым прадуктамі.

— Яны ж, бедныя, — паясняе яе муж, — сядзелі ў гэтых бункерах галодныя. Я тады знаходзіўся ў Турне Вялікай. То яшчэ ў чацверг, 26 чэрвеня, на пяты дзень вайны, адзін лейтэнант і адзін салдат прыходзілі ў вёску і прасілі хлеба. Хацелі купіць. Ну, але, вядома, як перад жнівом: хто меў, а ў каго і зусім не было. Адзін дзядзька (ён ужо не жыве) прынёс ім цэлы вялізны бохан хлеба. Лейтэнант выняў грошы, але селянін затросся, што не, ніякай заплаты не возьме. *„Я хлебам не гандлюю, —* кажа ён. — *Сваім даю, ад шчырага сэрца, мне грошай і не трэба". „Бери, старик, —* пераконваў яго лейтэнант. — *Тебе деньги еще пригодятся, это нам они уже не нужны..."* Аднак дзядзька замахаў рукамі і не ўзяў заплаты за свой хлеб, — расказвае Міхаіл Млынарчук.

Гэту спагадлівасць для труднага лёсу воінаў пацвярджае таксама і І. М. Шыбакоў, які піша, што *„...запасы вады і прадуктаў папаўнялі мы ноччу ў навакольных вёсках, якія знаходзіліся ў руках праціўніка".*

Падышла Люба пад аграмадную глыбу жалезабетоннага дота. Стаіць і ўзіраецца: як туды дабрацца? Адно толькі трывожная думка зусім лёгка прабівае сцены звыш метровай таўшчыні і без перашкод спыняецца найперш на твары аднаго салдата, юнака з Украіны, Пятра Плаксея. Ён там, за бетонам і жалезам. Не ведаў, што яна прыдзе, не спадзяваўся гэтай сустрэчы. Люба бездапаможна стаіць перад маскіровачнай агароджай і не ведае, што ёй рабіць. На шчасце, паявіўся іншы знаёмы салдат...

— Быў гэта, здаецца, кіргіз, — расказвае цётка Люба, — бо непадобны на рускага, такі чарнявы, таўставаты. **Сейсоў** называўся. *„Сейсоў, —* гавару яму, — *ці ёсць тут недзе Пецька Плаксей? Можа ты яго бачыў?"* А ён кажа: *„Так точно! Плаксей есть!"* І я яго папрасіла, каб паклікаў мне Пецьку. І ён яго паклікаў, а з Пятром выйшлі з дота яшчэ два ваенныя. Гавару яму, што я паесці прынесла, каб узяў кошык і распарадзіўся ім паводле сваёй волі...

Тады Пятра Плаксея адклікаў нейкі лейтэнант і запытаў:

— Гэта што за яна? Ты яе добра ведаеш?

— Галавой ручаюся! — заявіў салдат.

Тады афіцэр звярнуўся да дзяўчыны:

— У Слохах, — кажа, — жонка мая засталася. Ці не маглі б вы паведаміць ёй, што я знаходжуся тут, у гэтым доце над балотам. Хай прыдзе да мяне.

Паабяцала дзяўчына, што як толькі зможа, то збегае ў Слохі, каб перадаць яго просьбу жонцы, дабавіла толькі, што яна ўжо не жыве ў Слохах, што перабраліся з сям'ёй у Турну Малую. Лейтэнант пайшоў у бункер, а маладыя засталіся самі. Пасядзелі крыху, больш моўчкі, як за размовай. Пятро выняў з кішэні сваю звычайную, белую, салдацкую хусцінку і сарамліва ўціснуў яе Любе ў рукі.

— Вазьмі, больш у мяне нічога няма, каб табе падарыць на памяць... — і схапіў кошык з прадуктамі ды пабег да сваіх баявых сяброў, а Люба, усхваляваная, з хусцінкай у руках, накіравалася ў Турну.

(Працяг на стар. 6)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЧАСТКА LV**

Заканчваючы разважанні аб коласаўскім гумары ў дарэвалюцыйны перыяд, можам падзяліць коласаўскі камізм на камізм сітуацыйны, камізм характараў і камізм слоўны.

З сітуацыйным камізмам маем дачыненне тады, калі зусім звычайны чалавек трапляе ў незвычайныя, смешныя для іншых людзей сітуацыі. Зрэшты, тая самая сітуацыя, той самы выпадак з двума рознымі людзьмі можа быць смешны і не смешны. Для прыкладу, калі малады, дужы чалавек, які толькі што публічна хваліўся сваім выключным спрытам і сілай, выходзіць на вуліцу, паслізнецца і ўпадзе, дык такі стан выкліча ў назіральнікаў гэтай сцэны агульную весялосць і з'едлівыя каментарыі. Але калі ў тым самым месцы паслізнецца чалавек стары, недалужны ці скалечаны, дык такі стан, такая сітуацыя ў ніякім выпадку не можа быць ні смешнай, ні камічнай. Яна будзе выклікаць у нас не ўсмешку, а спачуванне.

Колас вельмі ўмела выкарыстоўвае прыёмы сітуацыйнага камізму ў такіх сваіх апавяданнях, як „Калодка пчол", „Кантракт", „Знайшлі", „У балоце" і ў амаль усіх гумарыстычных эпізодах „Новай зямлі".

У названых творах Колас паказвае звычайных людзей, якія трапілі ў смешныя перыпетыі. Возьмем для прыкладу апавяданне „Калодка пчол". Сяляне, якія купілі вулей, не маюць у сваіх характарах ніякіх смешных рыс. Па сутнасці камізм праяўляецца ў канцовым фрагменце, калі сяляне, захоўваючы выключную асцярожнасць, лезуць у вулей з той мэтай, каб выбраць з яго мёд, але вулей аказваецца цалкам пусты. Такім чынам людзі трапілі ў камічную сітуацыю. Абапіраючыся на гэтым жа самым факце, пісьменнік мог бы напісаць не камічнае, а драматычнае апавяданне, калі б, напрыклад, напісаў, што лекар сказаў селяніну, што адзіным прадуктам, які можа выратаваць хворае дзіця, з'яўляецца мёд і што селянін, прагнучы ратаваць дзіця, за апошнія грошы купляе вулей і, прывёзшы яго на панадворак, сцвярджае, што ў ім няма ні пчол, ні мёду. Настрой чытача, выкліканы такім творам, у ніякім выпадку не быў бы вясёлы, а сумны і яго гнеў кіраваўся б супраць нядобрасумленнага прадаўца, які ашукаў няшчаснага селяніна.

Пісьменнік аднак у даным выпадку выбраў іншую канцэпцыю і кожны аўтар мае на гэта права.

Класічным прыкладам сітуацыйнага камізму з'яўляюцца сцэны дзядзькі Антося, які „зайцам" едзе ў Вільню. Антось, як вядома, на вуліцах Вільні часта напорваецца на тэлефонныя слупы, у банку спатыкаецца і падае на лесвіцы і г.д. Чаму ўсё гэта дзеецца з Антосем, чалавекам разумным і цвярозым? Таму, што гэты чалавек знайшоўся ў незвычайных, нетыповых для яго сітуацыях. Дзякуючы гэтаму становіцца ён на момант смешны. У сітуацыйным камізме заўсёды дзейнічае фактар нечаканасці, здзіўлення ў адносінах да тыповых, прывычных для нас станаў.

Трапіць у камічную сітуацыю можа кожны з нас. Робім гэта вельмі часта, хоць не заўсёды хапае нам адвагі прызнацца: асабліва тады, калі мы самі такую сітуацыю стварылі.

Не так даўно мой знаёмы, дацэнт Варшаўскага універсітэта, абыходзячы вакол стала і цалуючы седзячым там жанчынам рукі, пацалаваў таксама руку мужчыну. А я асабіста, седзячы за сталом побач высокага рангам прадстаўніка універсітэцкіх улад, у пэўным моманце пачаў піць гарбату з яго шклянкі. Вось так падаем у камічныя сітуацыі, або ствараем іх самі.




# ДЗЕ Д'ЯБАЛ НЕ МОЖА...

*„Дзе д'ябал не можа, туды пашле жанчыну,"* — гавораць у народзе, а тут, у Нараўцы, аж дзве жанчыны кіруюць вясковым гандлем: **Валянціна Панфілюк** з'яўляецца старшынёю гміннай спулдзельні „Сялянская самапомач", а яе першым намеснікам па прадукцыі і забеспячэнні насельніцтва таварамі з'яўляецца **Валянціна Янчук**. І толькі трэці член праўлення — мужчына, **Канстанцін Кабац**. Усе яны вопытныя, шматгадовыя працаўнікі вясковага гандлю. Валянціна Панфілюк, для прыкладу, мае за сабой ужо 25-гадовы стаж працы, а на пасадзе старшыні яна амаль восем гадоў.

Старшыня найперш хоча пахваліцца гастранамічным павільёнам, які няцэлы год таму назад за амаль 15 мільёнаў злотых узвялі яны над самым берагам ракі Нараўкі. На фоне драўлянай, найчасцей яшчэ даваеннай аднапавярховай архітэктуры гэты павільён з'яўляецца сапраўднай аздобай Нараўкі. Шырокая тэраса, прасторная зала рэстарана, а на другім паверсе — кавярня і гасцініца, у якой за невялікую аплату можа атрымаць начлег нейкіх 20 чалавек. Для Нараўкі, якую ўсё часцей наведваюць турысты, гэта важная справа.

Спыняемся ў кавярні. Яна абсталявана глыбокімі і мяккімі крэсламі, з якіх кожнае каштуе больш трох тысяч злотых. На сценах, замест штукатуркі, дрэвападобная абліцоўка. Асвятленне — каляровае, мяккае, поўнае інтымнага настрою.

— Не баіцеся, што вам надта ж хутка панішчаць гэтую дарагую мэблю? —



*Дом адпачынку працаўнікоў вясковага гандлю і меліярацыі ў Рыбаках над ракою Нарвай.*

# ТРЫБУНА чытачоў

(Працяг са стар. 5)

## СУСТРЭЧА

— Апошняй ішла Валя. І я адразу пазнала...

Вось так сустрэліся дочкі Веры Мотыль, зараз ужо старэнькай бабулі, з сваёй выхаванкай Валяй Кузаравай пасля 25-гадовага расстання.

— Зараз мы ўтрымоўваем сардэчную дружбу з сям'ёй нашай „сястрычкі" (бо так не называлі дочкі Веры Мотыль), яна выйшла замуж, — працягвае пані Галена. — Жывуць у Тальяці. Яны прыязджаюць да нас у госці, мы едзем да іх.

— А які лёс бацькоў вашай „сястрычкі"?

— Маці загінула без вестак. Бацька трапіў у Войска Польскае. Загінуў у барацьбе з бандамі ў 1946 годзе ў званні капітана. Пахаваны ў Катавіцах.

Гэтая гісторыя дзвюх сем'яў, польскай — Веры Мотыль з Чаромхі і савецкай — Валянціны Кузаравай (прозвішча па мужу мне невядома) з'яўляецца сімвалам дружбы братніх народаў, якая нарадзілася ў жахлівыя гады вайны.

**Ул. Сідарук**

(Працяг са стар. 5)

## ДЗЕДУ КАСТУСЮ

фесіянал. Трачук здрадзіў класіцы. І.К.А. перастала дасылаць (ці не з перасялення ў Парнасік? Бо моднічаць не хацела?). Віктар Швед? Адзін у полі не воін. Адораны Алесь Барскі многа мог бы даць дасканалага, карыснага, даступнага народным масам. Але вазьмі яго за рубль дваццаць, як ён рубль сорак варты. Упёрся на уласным стылі і стылюе блізкасць далёкага ў „Тысячу і адну ноч" (дасягнуў ужо пэсцьдзесят сёмай). Чытаючы яго, я нераз думаў: няўжо і Аркадзь Лешук, верш якога „Я біць вам не буду" найдасканальшы з дасканалых вершаў, якія я чытаў у „Ніве" (быў змешчаны на першай старонцы), няўжо ён, не будзь селянінам, прыгнечаным штодзённымі турботамі хлебароба, таксама адскочыў бы ад рэалізма і ў моц дзедакастусёвага закону прыроды зрабіўся б шукачом форм і стыляў, тварыў бы нейкую сваю (ні к сялу, ні к гораду) леўшукоўшчыну?

Пытанне, які мае быць змест „Нівы", неабыякавае пытанне. Калі я бяру ў рукі чарговы нумар, мяне агортвае трывога: ці не забрэнталася ў надрук нейкая непатрэбшчына, змаляючая сабой прэсціж і годнасць тыднёвіка. Мо нікога з нас так не ўзрушае радасць, калі нумар „Нівы" ўдалы, на пяць, калі на яе старонках з'явіцца нешта новае, небывалае, патрэбнае. Вось чымсь такім патрэбным было прызнанне Дзедам Кастусём маёй крытыкі „калядарных" вершаў. Ён, адзін з першых маіх аднадумцаў, сваім гістарычнага значэння пісьмом, запаліў бясконцую палеміку, якую, агледзеўшыся, прызнаў шкоднай і пачаў на гвалт гасіць яе. Як закончылася нязгода, чытачы ўжо ведаюць. Выйшла ўсё як найлепш. І не дзякуючы законам прыроды, але добраму сэрцу і здароваму розуму Дзеда Кастуся і сябраў карэспандэнтаў. Шчыра адгукнуліся ў часіны майго духовага занянаду і зноў паставілі мяне ў рады сейбітаў і паклоннікаў роднай „Нівы". А гэта найбольшае жаданне ў маім жыцці. Як-Богу!

**Дзядзька Квас**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На дарозе каля вёскі Зубры, гміны Гарадок, „Жук", ад'язджаючы задам, наехаў на чалавека, які стаяў, і параніў яго так моцна, што той памёр, перавезены ў асяродак здароўя ў Шымках.

У Беластоку на вул. Цеплай „Стар" наехаў на 12-гадовую дзяўчынку, якая бегла праз вуліцу. Дзяўчынка ў бальніцы.

На шашы Бельск-Заблудаў у вёсцы Рыбалы „Шкода" наехала на пешахода з Рыбалаў і пакалечыла чалавека.

У вёсцы Пуціска на неасветленым веласіпедзе ехаў п'яны чалавек і заехаў дарогу „Волзе". У выніку веласіпедыст быў паранены.

У Беластоку „Аўтасан" паслізнуўся па дарозе і наехаў на чалавека, які стаяў каля свайго самахода.

А каля Бранска „Сірэна" на слізкай дарозе з'ехала ў роў і шафёр параніўся.

## ПРОСЬБА ДА ЧЫТАЧОЎ

На пераломе гадоў вельмі часта здараецца, што навуковыя і універсітэцкія бібліятэкі звяртаюцца ў рэдакцыю з просьбай, каб даслаць ім да камплекту паадзіночныя нумары „Нівы", якіх яны па розных прычынах не атрымалі ў свой час. Бібліятэкі гэтыя апрацоўваюць навукова „Ніву", робяць бібліяграфію зместу і, што найважнейшае, уключаюць у чытальні і пазычальні.

Рэдакцыя мае часта цяжкасці, каб здабыць патрэбныя нумары, таму ў сваю чаргу звяртаемся з просьбай да чытачоў, якія, быць можа, маюць нейкія нумары „Нівы" запасныя. Калі можаце, ахвяруйце іх рэдакцыі. Мы такім чынам зможам папоўніць гадавікі „Нівы" ў бібліятэках, дзе доступ да іх мае кожны заўсёды.

**Рэдакцыя**

## МАЛАЯ, АЛЕ ЗГОДНАЯ

Многа пішацца пра родныя гарады і вёскі. Я хачу наблізіць чытачам „Нівы" вёску, у якой я жыву. Яна называецца Лазовае і знаходзіцца ў гміне Нараўка, недалёка ад Ляўкова. Можна сказаць, што гэта бедная вёска, бо ў ёй жыве толькі пяць гаспадароў. Але затое ўсе яны самаахвярна працуюць і выконваюць усе дзяржаўныя абавязкі. Усе як адзін аддаюць малако на пункт скупкі ў Новым Ляўкове. Кожны год кожны гаспадар дастаўляе жывёлу на пункт у Нараўцы, а таксама гаспадары кантрактуюць і прадаюць збожжа і бульбу.

Два гаспадары ўжо маюць уласныя трактары. У 1972 годзе была праведзена ў нас электрычнасць. Цяпер усе гаспадары маюць розныя электрычныя прылады, як халадзільнікі, пралькі, тэлевізары, электрычныя маторы.

Гаспадары жывуць згодна. Памагаюць адзін другому. Адным словам, жывецца тут цяпер зусім добра.

Ваша пастаянная чытачка
**Крыстына Хаманчук**

## НОВЫ ГАСПАДАР У КРАМЕ

Прайшло больш як месяц часу, калі ў краме ў вёсцы Масева І новы гаспадар. Прадаўшчыцай стала Ніна Бараноўская. І адразу ў краме настаў парадак. Можна купіць усе найважнейшыя рэчы. Часта прывозяць напіткі. Можна ўжо тут купіць брытву пабрыцца. Масеўцы ўжо некалькі разоў паспрабавалі рыбы і селядцоў з сваёй крамы.

Усе гаспадары хваляць новую прадаўшчыцу і, можна сказаць, што новы гаспадар крамы дбае пра сваю краму.

**УКС**




## ПЕРШАЕ МЕСЦА Ў ВАЯВОДСТВЕ

Адбыўся з'езд гарадскога аддзела Польскага камітэта грамадскай дапамогі ў Гайнаўцы. Удзел прыняло 50 дэлегатаў, якія ў цікавай дыскусіі высока ацанілі дзейнасць свайго камітэта.

Прыемна было слухаць выступленне сакратара ваяводскага праўлення ПКПС Яна Жэброўскага, які паведаміў, што Гайнаўка заваявала першае месца ў ваяводстве. На „выдатна" ацаніў дзейнасць ПКПС у Гайнаўцы і сакратар гарадскога камітэта партыі Ян Сапяжынскі.

З'езд прыняў новую праграму дзейнасці на два наступныя гады і выбраў новае праўленне гарадскога аддзела. Старшынёй была выбрана заслужаная дзяячка грамадскай апекі мгр Зоф'я Лялеўская, намеснікам — мгр Анеля Ражкоўская, сакратаром Пелагея Попка.

А вось некалькі фактаў з мінулай дзейнасці гайнаўскага аддзела ПКПС. За два гады — 1977-79 было разгледжана і ўладжана 635 паданняў і спраў. Адзежу атрымала 130 асоб, ежу — 72 асобы, топліва на зіму — 76 асоб, фінансавую дапамогу на вопратку і пасцель — 54 асобы, карты на абеды — 44 асобы, апеку па хатах — 5 асоб. 72 вучням былі прызнаны абеды ў школьных сталовых. Ніякая просьба да Польскага камітэта грамадскай дапамогі ў Гайнаўцы не асталася без адказу. Вядзецца тут шырокая грамадская разведка матэрыяльнай сітуацыі сем'яў, якія звяртаюцца да ПКПС з просьбай дапамагчы ім.

**Вірскі**

## ВЁСКА КЛЕЙНІКІ

Вёска Клейнікі, што ў Чыжоўскай гміне, ляжыць на скрыжаванні дарог: Нараў-Бельск, Клейнікі-Гайнаўка. Гэта вялікая і прыгожая вёска! У ёй каля двухсот дамоў, а пражывае ў дамах тых 1080 жыхароў. Складаецца вёска з трох частак: Канец, Клябаншчына, Загаць. Галоўнай часткай з'яўляецца Клябаншчына. Тут пошта, тры крамы, клуб, бібліятэка, царква, школа, у якой вучыцца каля 300 вучняў і працуе 11 настаўнікаў, раміза з вялікай святліцай, медыцынскі пункт, а ў ім лекар і дзве сястры.

Дамы ў вёсцы ў большасці драўляныя, памаляваныя, але многа ёсць і мураваных. За вёскай ПГР, які пачаў працаваць у 1971 годзе. Працуе ў ім каля 60 рабочых розных прафесій.

Жыхары вёскі Клейнікі па прафесіі гаспадары. Жывуць яны багата, многа гаспадароў мае свае сельскія машыны і трактары, а нават уласныя самаходы. Многа людзей вёскі Клейнікі жыве на хутарах. Вёска мае іх шэсць, сярод іх такія, як Слівава, Сапава, Падпніска і іншыя.

**К. В., Клейнікі**

## НАША ПОШТА

**Анатоль Маўчун, Познань** (фрагмент надта цікавых і багатых лістаў нашага чытача). „Асяроддзе, у якім пражываю — выключна польскае. Нават мая сям'я — людзі мясцовыя. Праўда, у горадзе знайшлося б асоб з дзесятак, пра якіх ведаю, што яны родам з Беларусі. На жаль, мала хто з іх праяўляе цікавасць да беларускага слова. Сам я даволі моцна зацікаўлены справамі беларусаў. Аднак прышлося жыць далёка ад беларускага асяроддзя, а гэта ўжо само па сабе ўскладняе сітуацыю і дастаўляе шмат розных цяжкасцяў. Напрыклад, часта не хапае патрэбных мне беларускіх кніг і слоўнікаў. Рэдка ўдаецца злавіць хвалю беларускага радыё. Няма з кім пагаварыць па-беларуску, каб зусім не забыць гэту мову, якую ўжо і так дрэнна ведаю. (У гэтым месцы мы вымушаны сказаць аб скромнасці нашага дарагога чытача, бо піша ён так добра па-беларуску, што можна толькі зайздросціць і... пачаць вучыцца, яго лісты прыводзім без змен). Усе гэтыя недахопы ўзнагароджваюць мне ў нейкай меры газеты. Выпісваю не толькі „Ніву".

Чытаючы „Ніву", бачу, што многія цікавяцца беларускай літаратурай, беларускімі часопісамі. Можа не ўсе ведаюць, што ў Польшчы можна аформіць падпіску амаль на ўсе цікавейшыя часопісы і газеты, якія друкуюцца ў БССР. Я выпісваю ўжо больш дзесяці гадоў вось такія часопісы: „Беларусь" — штомесячнік, „Вожык" — сатырычны двухтыднёвік, „Літаратура і Мастацтва" — тыднёвік, у якім цікава гаворыцца аб культурных падзеях БССР, „Маладосць" — штомесячнік, у якім друкуюцца цікавыя і новыя творы беларускіх пісьменнікаў, „Бярозка" — штомесячнік для школьнікаў, „Вясёлка" — часопіс для дзяцей малодшага ўзросту. Выпісваць можна і іншыя газеты на беларускай мове, якія пададзены ў „Cenniku Czasopism Radzieckich" cz. II. Цэннік гэты павінен быць на кожнай пошце, дзе прымаюць падпіску на савецкую прэсу. Усе гэтыя часопісы прыходзяць ка мне сістэматычна. З іх чэрпаю розныя веды.

Часценька думаю, каб больш зацікавіць Беларуссю палякаў, між якімі жыву і працую. Нашы народы маюць многа соцень гадоў супольнай гісторыі. Колькі вялікіх палякаў нарадзілася на беларускай зямлі! Пра гэта павінны ведаць не толькі вучоныя. Мне можа да гэтай працы не хапае адпаведнай падрыхтоўкі. Аднак гэтай справай я хацеў бы займацца сур'ёзна. Нават рабіў некаторыя спробы. На нашым прадпрыемстве ўзначальваю гурток ТППР, вось тут я і думаў выпрабаваць свае сілы. Толькі пакуль што малавата ў нашым гуртку людзей, каб можна было з імі весці нейкую канкрэтную работу.

Вось і ўсё, што пра сябе напісаць магу. А ваша прапанова супрацоўнічаць з „Нівай" мне вельмі спадабалася. Чалавек адчувае часам патрэбу параіцца, паскардзіцца".

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ЧАМУ БЛУКАЮЦЦА ЛІСТЫ", „Ніва" № 43 (1235) ад 28.10.79 г.**

**Адказвае: URZĄD POCZTOWO-TELEKOMUNIKACYJNY w HAJNÓWCE**

W odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w gazecie „Niwa", uprzejmie wyjaśnia się co następuje:

Po skontaktowaniu się z Zakładem Mleczarskim w Hajnówce i złożonym oświadczeniu przez Naczelnika UPT Kleszczele wynika, że wiosną br. listy ze wsi Toporki były wysyłane do UPT Kleszczele, lecz na interwencję Naczelnika UPT Kleszczele obecnie Zakład Mleczarski w Hajnówce listy kieruje do UPT Dubicze Cerkiewne.

Jak wyjaśnia Naczelnik UPT Kleszczele, otrzymane listy ze wsi Toporki były natychmiast zwracane pod właściwy adres.

Krytykę prasową uważa się za słuszną, za co Urząd przeprasza i dołoży starań, aby w przyszłości podobne wypadki nie miały miejsca.

Dyrektor UPT
**M. Sulima**

**Да публікацыі „ЖНІВО БЕЛЬСКІХ „БАБАК", „Ніва" № 39 (1231) ад 30.9.79 г.**

**Адказвае: KOMENDA MILICJI OBYWATELSKIEJ W BIELSKU PODLASKIM**

Uprzejmie informuję, że fakty opisane w notatce prasowej są nam znane, a tego rodzaju ujemne zjawiska są przedmiotem naszej codziennej działalności.

W tym też zakresie tut. KMMO w miarę swych sił i środków, stosując działalność profilaktyczną i represyjną przyczyniła się i przyczynia do ewidentnego zmniejszenia zakresu tego zjawiska.

W okresie 1977—1979 r. została przerwana działalność 24 osób trudniących się nielegalnym handlem wódką monopolową tj. w wyniku dokonanych przeszukań zakwestionowany został alkohol, wszczęto postępowania karne, które zostały skierowane do Prokuratury Rejonowej w Bielsku Podlaskim z wnioskami o wniesienie aktów oskarżenia do Sądu.

W roku bieżącym wszczęto natomiast 7 postępowań przygotowawczych, w tym 4 w wyniku ukierunkowanych na ten problem i przeprowadzonych działań w miesiącu listopadzie br. Aktualnie prowadzonych jest kilka postępowań sprawdzających w trybie art. 258 k.p.k. w stosunku do osób prowadzących ten proceder.

Jednakże należy stwierdzić, iż w niektórych przypadkach nasze wyniki i działalność są bezskuteczne, bowiem orzekane przez Sąd kary nie są egzekwowane. Osoby trudniące się tą działalnością są najczęściej kobietami w podeszłym wieku, nie posiadającymi majątku — stąd też na skutek takiego stanu rzeczy, Sąd nie realizuje wydanych wyroków. Do takich osób należy zaliczyć np. Pietruszczyk Władysławę, przeciwko której tut. KMMO prowadziła w ostatnich latach pięciokrotnie dochodzenia o nielegalny handel wódką (w tym 1 w roku bieżącym) i mimo tego osoba ta aktualnie w dalszym ciągu trudni się tą działalnością. Wszystkie orzeczone wobec niej kary pozbawienia wolności oraz grzywny nie mogą być wykonane ze względu na nieodpowiedni stan zdrowia.

Zagadnieniem ewidentnym, chociaż obecnie sporadycznie występującym, jest spożywanie napojów alkoholowych wbrew zakazom art. 25 § 3 i 4 Ustawy o zwalczaniu alkoholizmu z 10.XII.1959 r. Za tego rodzaju wykroczenia funkcjonariusze tut. KMMO w br. sporządzili 10 wniosków o ukaranie do Kolegium d/s wykroczeń przy Naczelniku Miasta (najczęściej za spożywanie alkoholu w miejscach publicznych).

Bardziej nagminnym i nieprzyjemnym zjawiskiem są fakty zakłócenia spokoju i porządku publicznego, w tym używania słów wulgarnych przez osoby będące pod wpływem alkoholu. W br. za tego rodzaju czyny sporządziliśmy aż 109 wniosków o ukaranie do Kolegium d/s Wykroczeń.

Należy jednak stwierdzić, iż mimo uzyskiwania ewidentnych wyników w ujawnianiu i zwalczaniu w/w ujemnych zjawisk oraz dalszych zamierzeń i przedsięwzięć w tym zakresie, odczuwamy, iż nie będzie to jeszcze współmierne do zasięgu zjawiska. Bowiem zarówno racjonalne przepisy lokalne, jak i najaktywniejsze działania MO nie dadzą spodziewanych rezultatów, jeżeli nie pójdą w parze z wyraźną dezaprobatą tego zjawiska przez całe społeczeństwo.

**Zastępca Komendanta Miejskiego**
w Bielsku Podlaskim

**Да публікацыі „ЯК ЗРАБІЛІ", „Ніва" № 42 (1234) ад 21.10.79 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZARZĄD INWESTYCJI ROLNICZYCH W BIAŁYMSTOKU.**

Po zbadaniu sprawy informuję, że w trakcie realizacji zadania inwestycyjnego „Folwarki II", zgodnie z projektem wykonane zostało jedynie poczyszczenie rz. Małynka w jej środkowym odcinku. Pełną regulację rzeki wykonano natomiast w jej dolnym biegu.

Odcinek nieregulowany jest w zasadzie konserwowany raz na 3—4 lata.

Mając na uwadze trudności w użytkowaniu gruntów przez mieszkańców wsi Białki, Kołpaki i inne, Oddział WZIR w Białymstoku sporządzi przedmiar robót na poczyszczenie i odmulenie wspomnianego ca 3 km rzeki i spowoduje wykonanie, możliwie w okresie jak najwcześniejszym 1980 r. jako zabieg tymczasowy.

Jednocześnie w 1980 r. zostanie zbadany kompleks użytków zielonych przyległych do nieregulowanego odcinka rzeki, opracowana zostanie dokumentacja techniczna na regulację rzeki oraz ewentualne odwodnienie i zagospodarowanie przyległej doliny.

Realizacja powyższych prac nie będzie jednak mogła być rozpoczęta wcześniej jak w 1981 r.

Z-ca Dyrektora
**mgr inż. Konstanty Hukajło**

# Каляндар 1980 г. Нівы

| СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | МАЙ | ЧЭРВЕНЬ | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1 19 А Новы год** | 1 19 П Арсенія | 1 17 С Марыянны | 1 19 А Дар'і | **1 18 Ч Св. Працы** | **1 19 Н Дз. дзіцяці** | 1 18 А Ляонція | 1 19 П Макрыны | 1 19 П Андрэя | 1 18 С Софіі | **1 19 С Св. Памер.** | 1 18 П Платона |
| 2 20 С Ігнація | 2 20 С Яўфімія | **2 18 Н Фёдара** | 2 20 С Святланы | 2 19 П Антонія | 2 20 П Аляксея | 2 19 С Іуды | 2 20 С *Ільі* | 2 20 А Самуіла | 2 19 Ч Канстанц. | **2 20 Н Арцёма** | 2 19 А Аўдзея |
| 3 21 Ч Юльяніі | **3 21 Н Яўгенія** | 3 19 П Льва | 3 21 Ч Якава | 3 20 С Гаўрыіла | 3 21 А Канстанц. | 3 20 Ч Інны | **3 21 Н Сымона** | 3 21 С Фадзея | 3 20 П Алега | 3 21 П Іларыёна | 3 20 С Анатолія |
| 4 22 П Анастасіі | 4 22 П Ляонція | 4 20 А Яўгенія | 4 22 П Ісакія | **4 21 Н Сакрата** | 4 22 С Васіліска | 4 21 П Юльяна | 4 22 П Марыі | 4 22 Ч Яўлаліі | 4 21 С Андрэя | 4 22 А *Казан. ік.* | 4 21 Ч *Увядзенне* |
| 5 23 С Паўла | 5 23 А Клімента | 5 21 С Агафонія | 5 23 С Лідзіі | 5 22 П Віталія | **5 23 Ч Бож. Цела** | 5 22 С Галакціёна | 5 23 А Трафіма | 5 23 П Ірынея | **5 22 Н Іоны** | 5 23 С Ігнація | 5 22 П Валяр'яна |
| **6 24 Н Куцця** | 6 24 С Ксеніі | 6 22 Ч Цімафея | **6 24 Н Вялікдзень** | 6 23 А *Георгія* | 6 24 П Сцяпана | **6 23 Н Арцемія** | 6 24 С Барыса | 6 24 С Георг'я | 6 23 П Іраіды | 6 24 Ч Афанасія | 6 23 С *Ал-дра* |
| 7 25 П *Раждж. Хр.* | 7 25 Ч Віталія | 7 23 П Філіпа | **7 25 П Вялікдзень** | 7 24 С Фамы | 7 25 С Ферапонта | 7 24 П *Іана Хр.* | 7 25 Ч *Анны* | **7 25 Н Варфалам.** | 7 24 А Уладзісл. | **7 25 П Каст. рэв.** | **7 24 Н Кацярыны** |
| 8 26 А *Саб. Пр. Б.* | 8 26 П Марыі | 8 24 С Дз. жанчын | 8 26 А *Радаўніца* | 8 25 Ч Сільвестра | **8 26 Н Ялены** | 8 25 А Леанілы | 8 26 П Ермалая | 8 26 П Наталіі | 8 25 С Сяргея | 8 26 С Дзімітрыя | 8 25 П Клімента |
| 9 27 С Сцяпана | 9 27 С Іана | **9 25 Н Іана** | 9 27 С Іана | 9 26 П Дз. Перам. | 9 27 П Фядоры | 9 26 С Давіда | 9 27 С *Панцеляйм.* | 9 27 А Пімена | 9 26 Ч Іана | **9 27 Н Нестара** | 9 26 А Інакенція |
| 10 28 Ч Агафіі | **10 28 Н Мясапусн.** | 10 26 П Тарасія | 10 28 Ч Сцяпана | 10 27 С Сымона | 10 28 А Ігнація | 10 27 Ч Іанны | **10 28 Н Прахора** | 10 28 С Анны | 10 27 П Марка | 10 28 П Неанілы | 10 27 С Паладзія |
| 11 29 П Марка | 11 29 П Ігнація | 11 27 А Севасціяна | 11 29 П Марка | **11 28 Н Кірылы** | 11 29 С Фядосіі | 11 28 П Сяргея | 11 29 П Серафімы | 11 29 Ч *Усячэнне* | 11 28 С Вячаслава | 11 29 А Анастас'і | 11 28 Ч Сцяпана |
| 12 30 С Анісіі | 12 30 А *Трох св.* | 12 28 С Пракопа | 12 30 С Захара | 12 29 П Фядота | 12 30 Ч Рамана | 12 29 С *Пятра* | 12 30 А Валянціна | 12 30 П Ал-дра | **12 29 Н Дзень ЛВП** | 12 30 С Маркіяна | 12 29 П Нектарыя |
| **13 31 Н Шчодры в.** | 13 31 С Віктара | 13 29 Ч Васілія | **13 31 Н Апалонія** | 13 30 А Якава | 13 31 П Ермія | **13 30 Н 12 апост.** | 13 31 С Юліты | 13 31 С Генадзія | 13 30 П Грыгорыя | 13 31 Ч Н'кадзіма | 13 30 С *Андрэя* |
| 14 1 П *Новы год* | 14 1 Ч Пятра | 14 1 П Антаніны | 14 1 П Марыі | 14 1 С Тамары | 14 1 С Валяр'яна | 14 1 П Кузьмы | 14 1 Ч Маккавеяў | **14 1 Н Сымона** | 14 1 А *Пакрова* | 14 1 П *Кузьмы* | **14 1 Н Наума** |
| 15 2 А Сяргея | 15 2 П *Срэценне* | 15 2 С Фядота | 15 2 А Ціта | 15 2 Ч *Вазнясенне* | **15 2 Н Нікіфара** | 15 2 А Ювеналія | 15 2 П Сцяпана | 15 2 П Маманта | 15 2 С Анны | 15 2 С Афонія | 15 2 П Авакума |
| 16 3 С Малахіі | 16 3 С Сымона | **16 3 Н Яўтропія** | 16 3 С Нектарыя | 16 3 П Цімафея | 16 3 П Паўла | 16 3 С Анатолія | 16 3 С Кузьмы | 16 3 А Яўфімія | 16 3 Ч Дзяніса | **16 3 Н Іосіфа** | 16 3 А Фёдара |
| 17 4 Ч Афанасія | **17 4 Н Сырапусн.** | 17 4 П Паўла | 17 4 Ч Іосіфа | 17 4 С Пелагеі | 17 4 А Зас'мы | 17 4 Ч Андрэя | **17 4 Н Канстанц.** | 17 4 С Вавіла | 17 4 П Веранікі | 17 4 П Нікандра | 17 4 С *Варвары* |
| 18 5 П *Куцця* | 18 5 П Агаты | 18 5 А Іраіды | 18 5 П Платона | **18 5 Н Адрыяна** | 18 5 С Ігара | 18 5 П Афанасія | 18 5 П Нонны | 18 5 Ч Раісы | 18 5 С Пятра | 18 5 А Грыгорыя | 18 5 Ч Саввы |
| 19 6 С *Хрышч. Г.* | 19 6 А Хрысціны | 19 6 С Аркадзія | 19 6 С Платаніды | 19 6 П Дзяніса | 19 6 Ч Сасанны | 19 6 С Валянціна | 19 6 А *Спаса* | 19 6 П Макара | **19 6 Н Фамы** | **19 6 С Ал-дра** | 19 6 П *Мікалая* |
| **20 7 Н Іана Хр.** | 20 7 С Лукі | 20 7 Ч Яўгенія | **20 7 Н Прапалав.** | 20 7 А Ніла | 20 7 П Клаўдзія | **20 7 Н Фамы** | 20 7 С Дамеція | 20 7 С Сазонта | 20 7 П Юльяна | 20 7 Ч Фядота | 20 7 С Антонія |
| 21 8 П Георгія | 21 8 Ч Фёдара | 21 8 П Феафілакт. | 21 8 П Ірадзівона | 21 8 С Пімена | 21 8 С Фёдара | 21 8 П Пракопа | 21 8 Ч Грыгорыя | **21 8 Н Раждж. Б.** | 21 8 А Таісіі | 21 8 П *Міхаіла* | **21 8 Н Патапа** |
| 22 9 А Філіпа | 22 9 П Н'кіфара | 22 9 С *40 муч.* | 22 9 А Вадзіма | 22 9 Ч *Мікалая* | **22 9 Н Марфы** | **22 9 А Св. Адр.** | 22 9 П Дзмітрыя | 22 9 П Анны | 22 9 С Якава | 22 9 С Анісіфара | 22 9 П Анны |
| 23 10 С Грыгорыя | 23 10 С Валянціны | **23 10 Н Леан'да** | 23 10 С Іанны | 23 10 П Таіс'і | 23 10 П Антаніны | 23 10 С Апалонія | 23 10 С Рамана | 23 10 А Пятра | 23 10 Ч Яўлампія | **23 10 Н Радзівона** | 23 10 А Ангеліны |
| 24 11 Ч Міхаіла | **24 11 Н Усевалада** | 24 11 П Георгія | 24 11 Ч Георгія | 24 11 С Мяфодзія | 24 11 А Варфалам. | 24 11 Ч Ольгі | **24 11 Н Сасанны** | 24 11 С Сяргея | 24 11 П Зінаіды | 24 11 П Віктара | 24 11 С Даніла |
| 25 12 П Таццяны | 25 12 П Аляксея | 25 12 А Сымона | 25 12 П Васіл'я | **25 12 Н Тройца** | 25 12 С *Ануфрыя* | 25 12 П Міхаіла | 25 12 П Ал-дра. | 25 12 Ч Юльяна | 25 12 С Кузьмы | 25 12 А Ніла | **25 12 Ч Раждж.Хр.** |
| 26 13 С Якава | 26 13 А Зоі | 26 13 С Цярэнція | 26 13 С Артамона | 26 13 П *Св-дух дз.* | 26 13 Ч Іана | 26 13 С Гаўрыіла | 26 13 А Ірынея | 26 13 П Карніла | **26 13 Н Веніяміна** | 26 13 С Нікіфара | **26 13 П Яўгенія** |
| **27 14 Н Ніны** | 27 14 С Кірылы | 27 14 Ч Венядзікта | **27 14 Н Антонія** | 27 14 А Ісідара | 27 14 П Мсціслава | **27 14 Н Анісіма** | 27 14 С Міхея | 27 14 С *Уздзв. Кр.* | 27 14 П Параскевы | 27 14 Ч Філіпа | 27 14 С Апалонія |
| 28 15 П Прахора | 28 15 Ч Анісіма | 28 15 П Ал-дра | 28 15 П Мсціслава | 28 15 С Пахомія | 28 15 С Амоса | 28 15 П Уладзіміра | 28 15 Ч *Успенне* | **28 15 Н Мікіты** | 28 15 А Яўфімія | 28 15 П Гурыя | **28 15 Н Паўла** |
| 29 16 А Леанілы | 29 16 П Памфіла | 29 16 С Міраславы | 29 16 А Галіны | 29 16 Ч Аляксандра | **29 16 Н Ціхана** | 29 16 А Аляўціны | 29 16 П Дзяміда | 29 16 П Людмілы | 29 16 С Лонгіна | 29 16 С Мацвея | 29 16 П Феафаніі |
| 30 17 С Антонія | | **30 17 Н Вербніца** | 30 17 С Адрыяна | 30 17 П Славаміра | 30 17 П Мануіла | 30 17 С Марыны | 30 17 С Мірона | 30 17 А Веры | 30 17 Ч Ляонція | **30 17 Н Нікана** | 30 17 А Азарыя |
| 31 18 Ч Кірылы | | 31 18 П Кірылы | | 31 18 С Клаўдзіі | | 31 18 Ч Емяльяна | **31 18 Н Емяльяна** | | 31 18 П Іосіфа | | 31 18 С Зоі |

